Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№48 (1065) 14 сакавіка 1995 г. Аўторак. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 558399 экз. Кошт у розніцу — 200 руб.

# Дзень Канстытуцыі — найвялікшае свята незалежнай дзяржавы. Будзем жыць па Канстытуцыі!

## ФАКС

*ФАКТЫ*АРГУМЕНТЫ*КОММЕНТАРИИ*СОБЫТИЯ*

### Вкратце

***Федеральные войска полностью блокировали в понедельник автотрассу из Ингушетии в западные районы Чечни, прекратив пропуск через контрольно-пропускной пункт внутренних войск МВД России у села Самашки (к западу от Грозного).***

❑

***Хранилище радиоактивных источников, состоящее из 9 шахт, обнаружили в минувшие выходные на территории одного из стройуправлений Грозного сотрудники министерства России по чрезвычайным ситуациям.***

❑

***На открывающейся сегодня в Москве общественной конференции "Мирная инициатива на Кавказе", как ожидается, выступят премьер Виктор Черномырдин, руководитель администрации президента Сергей Филатов, патриарх Московский и всея Руси Алексий II, уполномоченный по правам человека РФ Сергей Ковалев, вице-спикер Совета Федерации Рамазан Абдулатипов и другие официальные лица.***

❑

***Руководитель следственной группы по расследованию убийства тележурналиста Владислава Листьева Борис Уваров опроверг появившиеся слухи о том, что якобы дана санкция на арест президента фирмы ЛИС'С и рекламного агентства "Премьер-СВ" Сергея Лисовского.***

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской межбанковской валютной биржи в понедельник упал на 23 пункта по сравнению с торгами в минувшую пятницу и составил 4695 рублей.***

❑

***5 человек замерзли до смерти на московских улицах за последние 5 суток. Общее число жертв московской зимы составило, по данным на 13 марта, 101 человек.***

❑

***Россия и Беларусь к концу марта должны разработать программу совместного обустройства таможенных пропускных пунктов на белорусской границе.***

### СНГ: укрепляются международные связи

***Соглашение о сотрудничестве между Содружеством Независимых Государств и Организацией Объединенных Наций по вопросам образования, науки и культуры может быть подписано уже в ближайшее время, заявил на встрече с исполнительным секретарем СНГ Иваном Коротченей Генеральный директор ЮНЕСКО Федерико Майор.***

Они обсудили в Париже широкий круг проблем, касающихся укрепления международного мира и безопасности, а также взаимодействия в таких важных областях, как естественные науки и технологии, охрана окружающей среды, образование и культура, информационные системы и коммуникации, и многих других.

### В.Сенько встретился с послами стран — членов НАТО

***9 марта министр иностранных дел Республики Беларусь В.Сенько встретился с представителем посольства Италии, послами Великобритании, США, Франции, Турции и Германии в Беларуси.***

Иностранные дипломаты вручили г-ну Сенько заявление НАТО, принятое в связи с тем, что белорусское руководство решило приостановить ликвидацию вооружений и военной техники в соответствии с условиями Договора об обычных вооруженных силах в Европе.

**Александр ВАСИЛЕВСКИЙ.**

### В Солигорске прошла забастовка учителей

***10 марта в течение трех часов проводилась забастовка педагогов всех средних школ города Солигорска.***

Акция протеста была организована отраслевым профсоюзом работников народного образования и науки, входящим в состав Федерации профсоюзов Беларуси, и явилась ответом учителей на отсутствие реакции со стороны руководства республики и города по выполнению ранее предъявляемых требований. Учителя, в частности, требовали повышения заработной платы, а также защиты своих социальных прав.

**Наталья КУЛАГИНА.**

### Мечеслава Гриба уважают земляки

***В Дятловском районе Гродненской области прошло собрание избирателей по выдвижению кандидата в депутаты Верховного Совета Беларуси нового созыва.***

Члены коллектива сельскохозяйственного общества "Нива" приняли решение выдвинуть кандидатом своего земляка — председателя высшего законодательного органа республики Мечеслава Гриба.

**Антон ГОРОДЕНСКИЙ.**

### БЕЛАВИА: осваиваем небо Европы

***В конце этого месяца откроется еще один европейский маршрут — Минск—Лондон, отметил на состоявшейся пресс-конференции Григорий Федоров, заместитель министра транспорта и коммуникаций, директор Департамента гражданской авиации Республики Беларусь.***

Национальная авиакомпания обошла практически всех своих "коллег" по странам СНГ. Уже открыто 35 воздушных линий по странам СНГ, в то время как даже Украина значительно отстает. Если говорить о международных перевозках, то в прошлом году БЕЛАВИА перевезено на 15 процентов пассажиров больше, чем в предыдущем. Кроме регулярных рейсов выполнено 790 заказных и чартерных полетов в 22 страны мира. Только через Атлантику по маршруту Минск—Шенон—Нью-Йорк перевезено более пяти тысяч пассажиров. Скоро на базе этого маршрута будут проложены новые линии в Центральную и Южную Америку.

БЕЛАВИА только в прошлом году пополнила казну пятью миллионами долларов и двадцатью четырьмя миллиардами рублей.

**Владимир САМОЙЛОВ.**

### Избран глава крымского парламента

***Председателем Верховного Совета Крыма повторно избран С.Цеков.***

Таким образом, завершилось избрание главы крымского парламента, длившееся пять дней, в течение которых ни одному из кандидатов не удавалось набрать нужное количество депутатских голосов.

**Иван ТУЛИНСКИЙ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, БелаПАН, РИД.**

*Наступны нумар "Народнай газеты" выйдзе ў свет 17 сакавіка г.г.*

## Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь — аснова стварэння суверэннай прававой дзяржавы

Год назад была прынята Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, у якой наша дзяржава абвешчана як унітарная, дэмакратычная, сацыяльная прававая. Здавалася б, што год — гэта неістотны тэрмін для гісторыі народа. Але для Рэспублікі Беларусь і само прыняцце Канстытуцыі, і наступны перыяд часу юрыдычна і фактычна азнаменавалі новую гістарычную эпоху беларускай дзяржаўнасці.

Прынятая Канстытуцыя ўпершыню юрыдычна ў поўным аб'ёме замацавала Рэспубліку Беларусь як суверэнную дзяржаву, заснаваную на самастойнай нацыянальнай ідэі. Канстытуцыя стала найважнейшым крокам на шляху стварэння прававой дзяржавы, у якой забеспячэнне правоў і свабод чалавека з'яўляецца прыярытэтным накірункам дзейнасці ўсіх дзяржаўных органаў.

Няпростым быў шлях нашай дзяржавы да нацыянальнага суверэнітэту. Шмат праблем самага рознага характару і ў сённяшнім жыцці. І ўсё ж такі мы сустракаем першую гадавіну нашай Канстытуцыі, якую дасюль называем новай, з надзеямі на пераадоленне эканамічнага крызісу, стварэнне ўстойлівай прававой сістэмы і забеспячэнне гарантаваных правоў і свабод грамадзян.

Работа над праектам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вялася на працягу трох гадоў. Гэта былі гады вялікіх перамен у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, культурнай сферах жыцця рэспублікі. Сітуацыя мянялася імкліва: развал СССР, скасаванне палітычнай улады КПСС—КПБ, рэзкае падзенне ўзроўню жыцця насельніцтва, новыя арыенціры эканамічнай сістэмы (прыватнае прадпрымальніцтва і ўласнасць), шматпартыйнасць, новая ваенная дактрына, перамены ў змесце знешняй палітыкі і шмат чаго іншага. У гэтых умовах часта прапаноўваліся прынцыпова супрацьлеглыя падыходы да вырашэння канкрэтных праблем, замацаваныя ў значнай колькасці розных нарматыўных актаў. Толькі Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь за пяцігадовы перыяд было прынята больш за 350 законаў і 1200 пастаноў. У вядомай ступені такая актыўная нарматворчасць была аб'ектыўна неабходнай. Але была неабходна агульная канцэпцыя дзяржаўнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі. І яна была створана Канстытуцыяй.

Канстытуцыя, з аднаго боку, павінна была вырашыць назапашаныя ў праве супярэчнасці, з другога — стаць асновай новай рэгламентацыі адносін. Ці, інакш кажучы, назапашаная нарматыўная база павінна была ў абагульненай форме знайсці ўвасабленне ў Канстытуцыі, а пасля гэтага — зменена ў адпаведнасці з ёю. Гэтая задача ва ўмовах сучаснасці, якая пастаянна мяняецца, аказалася далёка няпростай.

Распрацоўшчыкі намагаліся ў максімальнай ступені не толькі канкрэтызаваць змест артыкулаў Канстытуцыі, але і зрабіць яго шырокім, магчымым для наступнага напаўнення шляхам прыняцця законаў у развіццё Канстытуцыі.

У сувязі з гэтым перыяд рэалізацыі канстытуцыйных норм шляхам прыняцця новых заканадаўчых актаў на іх падставе будзе складаным і пройдзе ў супрацьборстве розных меркаванняў. Заканадаўчая практыка, дзейнасць Канстытуцыйнага суда ўжо неаднаразова пацвердзілі гэтую выснову. Яна датычыцца як асноўных паняццяў, катэгорый і прынцыпаў, прадугледжаных Канстытуцыяй, так і механізмаў, працэдур рэалізацыі грамадскіх адносін, праблем узаемадзеяння асобы, грамадства, дзяржавы.

Канстытуцыя шмат у чым па-новаму расставіла націскі ў грамадскіх адносінах:

па-першае, вышэйшай каштоўнасцю грамадства і дзяржавы абвешчаны чалавек, яго правы;

па-другое, гэта Канстытуцыя суверэннай дзяржавы, накіраваная на рэалізацыю самастойнай нацыянальнай і дзяржаўнай ідэі;

па-трэцяе, уведзены прынцыпова новыя паняцці — прававая дзяржава, падзел улад, дзяржаўная мова, створаны ўмовы для іх рэалізацыі;

па-чацвёртае, у ёй значна менш, чым раней, удзяляецца ўвага палітыка-ідэалагічнаму зместу сацыяльна-эканамічнага развіцця грамадства.

Які ж прагноз у адносінах да ўстойлівасці новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь? Мяркуем, што яна у сілу характару зместу будзе ўстойлівай, і наўрад ці прынясуць карысць намаганні з боку некаторых палітыкаў змяніць яе. Галоўнай задачай з'яўляецца стварэнне на яе падставе шматлікіх новых нарматыўных актаў, сістэматызацыя і кадыфікацыя дзеючых.

Закон Рэспублікі Беларусь "Аб парадку ўступлення ў сілу Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь" устанавіў, што "законы, указаныя ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, павінны быць прынятыя на працягу двух гадоў пасля яе ўступлення ў сілу". Але праблема павінна разглядацца значна шырэй. Маецца патрэба ў дасканалым аналізе ўсяго дзеючага заканадаўства рэспублікі, комплексная і напружаная работа па яго прывядзенню ў адпаведнасць з нормамі Канстытуцыі, раскрыцці іх зместу. Інакш Канстытуцыя ў часткі шматлікіх норм-прынцыпаў не зможа адыгрываць тую ролю, якая ёй адведзена.

Сказанае асабліва датычыцца такіх раздзелаў Канстытуцыі, як "Асновы канстытуцыйнага ладу" і "Асоба, грамадства, дзяржава". Менавіта яны складаюць асноўную сутнасць Канстытуцыі, тады калі іншыя раздзелы накіраваны галоўным чынам на рэальнае забеспячэнне іх зместу.

Надзвычай актуальным падаецца стварэнне спецыяльнай праграмы заканатворчых работ на перспектыву, якая на падставе канстытуцыйных палажэнняў павінна ўключаць:

законапраекты, накіраваныя на рэалізацыю Канстытуцыі, неабходнасць якіх прама вынікае з яе артыкулаў;

законапраекты, накіраваныя на рэалізацыю канцэпцыі развіцця дзяржавы і грамадства;

законапраекты, накіраваныя на стварэнне механізма рэалізацыі правоў і свабод грамадзян, функцыяніраванне дзяржаўнага апарату;

законапраекты, накіраваныя на прывядзенне заканадаўства ў адпаведнасць з Канстытуцыяй. Зараз над стварэннем гэтай праграмы працуе пазаштатны Савет па прававых пытаннях, створаны пры Старшыні Вярхоўнага Савета, і Інстытут па дзяржаўнаму будаўніцтву.

Своеасаблівым падмуркам усяго астатняга зместу Канстытуцыі з'яўляецца раздзел "Асновы канстытуцыйнага ладу". У ім замацаваны асноўныя прынцыпы дзяржаўнага будаўніцтва, функцыяніравання сістэмы дзяржаўных органаў, іншых суб'ектаў палітычнай сістэмы, месца і роля грамадзян у сістэме грамадскіх адносін, прынцыпы ажыццяўлення міжнародных сувязей і г.д. Па сутнасці, ад інтэрпрэтацыі гэтага раздзела залежыць змест усёй прававой сістэмы рэспублікі.

Дэмакратыя як прававы рэжым існуе даўно і ўзнікла ў нетрах чалавечай цывілізацыі. Але яна розная не толькі ў залежнасці ад той ці іншай грамадска-эканамічнай фармацыі, але і ў кожнай дзяржаве. Якой яна будзе ў Рэспубліцы Беларусь, наколькі ўстойлівай і прагрэсіўнай, заканадаўца яшчэ павінен адказаць. Аналагічную праблему ўяўляе рэалізацыя характарыстык сацыяльнай і прававой дзяржавы, якія пакуль што не раскрыты як юрыдычныя паняцці.

Можна было б прапанаваць наступны іх змест:

**сацыяльная дзяржава** можа азначаць, што асноўнай мэтай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы, гэта значыць рэалізацыі яе інтарэсаў, якія выражаны ў законных формах і ў суадносінах з інтарэсамі грамадства;

**дэмакратычная дзяржава** мае на ўвазе, што сацыяльныя мэты дасягаюцца шляхам кіравання народа, гэта значыць пры дапамозе прадстаўлення яго інтарэсаў у органах дзяржаўнай улады і прыняцця імі рашэнняў на падставе і ў выкананне волі грамадзян рэспублікі;

**прававая дзяржава** апрача асноўных прынцыпаў яе функцыяніравання і пабудовы павінна адлюстроўваць ідэю адпаведнасці законаў волі і інтарэсам грамадзян.

Дзяржава павінна гарантаваць асноўныя агульнапрынятыя ідэі сацыяльнай дзяржавы:

— не прыніжаючы чалавечай годнасці пражытачны мінімум для кожнага;

— сацыяльную роўнасць магчымасцей;

— аказанне сацыяльнай дапамогі тым, хто жыве ў нястачы.

Прапанаванае тлумачэнне вынікае, на наш погляд, са зместу артыкулаў 2 і 3 Канстытуцыі, у якіх чалавек вызначаецца як "найвышэйшая каштоўнасць грамадства і дзяржавы", а "адзінай крыніцай дзяржаўнай улады з'яўляецца народ", які ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна і праз прадстаўнічыя органы.

Найважнейшым для нас з'яўляецца забеспячэнне рэалізацыі артыкула 2 Канстытуцыі, у якім сказана: "Дзяржава адказная перад грамадзянінам за стварэнне ўмоў для свабоднага і годнага развіцця асобы", паколькі мера свабоды і ступень стварэння ўмоў для годнага развіцця асобы ў дзяржаве вызначаюцца канкрэтнымі прававымі нарматывамі. Напрыклад, малазабяспечанасць, ліміты пры прызнанні неабходнасці паляпшэння жыллёвых умоў, памер стыпендый, дапамог і г.д. Чалавек не можа адчуваць сябе свабодным і маючым дастатковыя для сябе ўмовы ў дзяржаве, калі гэтыя нарматывы ніжэй, чым у іншых.

Таму арыенціры ў "меры свабоды" і "годнага ўзроўню ўмоў для развіцця" хутчэй павінны вызначацца на падставе міжнародных нарматываў і паказчыкаў. Рашаючую ролю павінны мець шматлікія міжнародныя пагадненні, дэкларацыі, канвенцыі, ратыфікаваныя Рэспублікай Беларусь. Менавіта гэтыя нормы павінны стаць прадметам комплекснага аналізу і, магчыма, увасобіцца ў "Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна ў Рэспубліцы Беларусь". У ёй павінны атрымаць больш канкрэтны змест многія з артыкулаў Канстытуцыі, якія вызначаюць прававы статус грамадзяніна.

Асобую значнасць для рэспублікі мела ўвядзенне прынцыпу падзелу ўлад як аднаго з найважнейшых гарантаў стварэння сацыяльнай і прававой дзяржавы. На жаль, у рэспубліцы гэты прынцып знайшоў увасабленне ў асноўным у функцыянальным падзеле паўнамоцтваў паміж дзяржаўнымі органамі.

Адбылося пераразмеркаванне роляў паміж заканадаўчай і выканаўчай уладамі. Дарэчы, трэба адзначыць, што судовая ўлада і раней была юрыдычна аддзелена ад заканадаўчай і выканаўчай.

У артыкуле 6 Канстытуцыі гаворыцца: "дзяржаўныя органы ў межах сваіх паўнамоцтваў самастойныя, яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, стрымліваюць і ўраўнаважваюць адзін аднаго". Нам яшчэ прыйдзецца шмат зрабіць для стварэння рэальнага механізма такога ўзаемадзеяння.

Акрамя гэтага, на парадку дня застаецца рэалізацыя асноўнага прынцыпу падзелу ўлад — абарона грамадзяніна ад усеўладдзя дзяржавы. Яна адна з найбольш актуальных і складаных і прадугледжвае комплексны аналіз усяго механізма ажыццяўлення дзяржаўнай улады, стварэння новых працэдур і органаў (напрыклад, інстытут упаўнаважанага па правах чалавека). Не вырашана праблема абароны правоў, свабод, інтарэсаў грамадзяніна ў частцы стварэння эфектыўнага механізма абскарджання незаконных дзеянняў службовых асоб і дзяржаўных органаў як у парадку падначаленасці, так і ў судовыя органы.

Дзяржава ў разглядаемых адносінах не забяспечыла поўнай даступнасці прававых актаў для грамадзян, недастаткова ўдзяляе ўвагі прававому абслугоўванню насельніцтва па ўсіх аспектах гэтай шматграннай работы. Адзначанае ў роўнай ступені датычыцца службовых асоб. Таму палажэнне артыкула 7 Канстытуцыі аб тым, што "дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы звязаны правам, дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёю законаў", неабходна спецыяльна забяспечыць на практыцы.

Прыцягвае ўвагу механізм рэалізацыі артыкула 15 Канстытуцыі, які замацоўвае магчымасць "свабоднага развіцця ўсіх нацыянальных супольнасцей, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь". У рэспубліцы ёсць некалькі законаў, якія закранаюць, напрыклад, пытанні адукацыі на нацыянальнай мове: "Аб адукацыі", "Аб культуры", "Аб нацыянальных меншасцях", "Аб мовах". Аднак у новым апісанні пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь адсутнічае графа "нацыянальнасць". Таму праблематычным уяўляецца пытанне аб рэалізацыі свабоды развіцця нацыянальных культур. Грамадская практыка ў Беларусі ўжо мае нямала прыкладаў канфліктаў па шэрагу пытанняў развіцця нацыянальнай культуры, напрыклад у частцы выбару мовы навучання.

Неабходна палітычная ацэнка і заканадаўчая расшыфроўка статуса Рэспублікі Беларусь як бяз'ядзернай зоны і нейтральнай дзяржавы.

У рэспубліцы не сціхаюць спрэчкі наконт сімвалаў дзяржавы — сцяга і герба, з якімі розныя палітычныя сілы звязваюць ідэалагічную падаплёку далейшага развіцця дзяржавы. На наш погляд, гэта адно з вастрэйшых палітычных пытанняў, але яно не закранае сутнасці Канстытуцыі, у адрозненне ад артыкула 20, які прадугледжвае стварэнне закона "Аб статусе сталіцы Рэспублікі Беларусь".

Раздзел II Канстытуцыі "Асоба, грамадства, дзяржава" раскрывае правы і свабоды грамадзян рэспублікі і адпаведна замацоўвае абавязкі дзяржавы па іх забеспячэнню. Гэта, напрыклад, артыкул 35, змест якога прадугледжвае стварэнне закона, які будзе рэгламентаваць парадак правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый. Неабходнасць такога закона відавочна. Пры гэтым апрача чыста працэдурных момантаў не менш важна вызначыць юрыдычныя наступствы гэтых мерапрыемстваў.

Далей, Канстытуцыя ў артыкуле 63 звязвае магчымасць прыпынення рэалізацыі правоў і свабод асобы ва ўмовах надзвычайнага ці ваеннага становішча. Аднак адпаведных законаў аб надзвычайным становішчы і аб ваенным становішчы пакуль што няма.

Асаблівую значнасць мае арганізацыя мясцовага кіравання і самакіравання. Яно з'яўляецца адной з найважнейшых умоў стабільнага функцыяніравання дзяржаўнай улады. Прынцыпы дэмакратычнай сацыяльнай прававой дзяржавы павінны мець у гэтых адносінах адназначнае тлумачэнне і прымяненне на ўсіх узроўнях арганізацыі грамадства. Так, у артыкуле 117 Канстытуцыі абвешчана ажыццяўленне мясцовага кіравання і самакіравання менавіта грамадзянамі, па-першае, праз ствараемыя прадстаўнічыя дзяржаўныя органы; па-другое, праз органы тэрытарыяльнага грамадскага самакіравання, па-трэцяе, праз мясцовыя рэферэндумы, сходы і іншыя формы прамога ўдзелу грамадзян у дзяржаўных і грамадскіх справах.

У Канстытуцыі паслядоўна развіты і заканадаўча аформлены галоўныя ідэі, якія знаходзяцца ў папярэдніх заканадаўчых актах Рэспублікі Беларусь і міжнародных дакументах, вопыт іншых дзяржаў. Як сведчыць сусветная практыка, чым вышэй узровень развіцця грамадства, тым большая частка пытанняў кіравання вырашаецца на мясцовым узроўні. Роля дзяржаўных органаў вышэйшага ўзроўню павінна паступова зводзіцца да вызначэння толькі асноўных прынцыпаў грамадскіх адносін.

Мясцовыя Саветы дэпутатаў, іх распарадчыя і выканаўчыя органы з'яўляюцца ў гэты час галоўнай арганізацыйнай і кіруючай структурай на падведамнай ім тэрыторыі. Паводле статыстычных даных, у Рэспубліцы Беларусь усяго існуе 1808 Саветаў дэпутатаў, у якія на 01.01.94 г. было выбрана 47 217 дэпутатаў. Справа, натуральна, не у колькасці Саветаў і дэпутатаў, а ў прадстаўленых ім як органам прадстаўнічай дэмакратыі паўнамоцтвах.

Канстытуцыяй скарочаны тэрмін паўнамоцтваў мясцовых Саветаў дэпутатаў з пяці год, як было раней, да чатырох год. Скарачэнне тэрміну паўнамоцтваў, па ідэі заканадаўцы, мела на мэце, з улікам абнаўлення складу дэпутатаў, прыцягнуць большую колькасць грамадзян да ажыццяўлення дэпутацкіх паўнамоцтваў.

Існуе прынцыпова важная праблема дакладнага фармулявання кампетэнцыі і прынцыпаў узаемадзеяння паміж органамі ўлады рознага ўзроўню.

Кампетэнцыя мясцовых Саветаў дэпутатаў у васьмідзесятыя гады была вызначана ў спецыяльных законах, прысвечаных кожнаму з узроўняў Саветаў. Гэтыя законы не адменены да гэтага часу, нягледзячы на тое, што многія змены былі зроблены заканадаўцам з прыняццем Закона "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь". Перад заканадаўцам стаіць задача: ці неабходныя новыя законы аб кожным з мясцовых Саветаў рознага ўзроўню, ці распрацоўка адзінага закона.

Магчыма, галоўнае ў вырашэнні праблемы дакладнага размежавання межаў кампетэнцыі па вертыкалі паміж органамі прадстаўнічай дэмакратыі — забеспячэнне як супадпарадкаванасці, так і незалежнасці.

Мэтазгодна ўлічыць вопыт краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы па арганізацыі мясцовага самакіравання. Асноўным у гэтым вопыце з'яўляецца дасягненне максімальна магчымай ступені дэцэнтралізацыі на падставе дакладнага размеркавання паўнамоцтваў.

У большасці краін Еўропы пастаянна ажыццяўляецца працэс пашырэння функцый і кампетэнцыі мясцовых улад. Гэты працэс становіцца магчымым толькі на падставе пашырэння эканамічнай базы мясцовых органаў.

Над гэтымі і многімі іншымі пытаннямі напружана працаваў Вярхоўны Савет з моманту прыняцця Канстытуцыі. Толькі за апошні год прынята 58 законаў. Нельга пераацаніць значнасць такіх з іх, як законы "Аб Канстытуцыйным судзе", "Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", "Аб палітычных партыях", Аб грамадскіх аб'яднаннях", "Аб Кабінеце Міністраў", Аб Вярхоўным Савеце", "Аб Прэзідэнце", "Аб судаўладкаванні і статусе суддзяў", "Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыях", і іншых. Шмат змяненняў і дапаўненняў зроблена ў дзеючае заканадаўства.

Увогуле пасля прыняцця Канстытуцыі і ўнясення змяненняў у заканадаўства мы жывём у іншым грамадстве і дзяржаве. Але жыццё ставіць новыя пытанні, таму заканадаўцу прыйдзецца яшчэ многа папрацаваць на карысць грамадзян рэспублікі, у тым ліку з мэтай поўнай рэалізацыі шматлікіх артыкулаў Канстытуцыі.

Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь з'яўляецца добрым падмуркам для існавання і развіцця незалежнай Беларусі. Але хацелася б нагадаць, што сама па сабе Канстытуцыя працаваць не будзе. Для гэтага патрэбна ў першую чаргу, каб усё насельніцтва нашай рэспублікі ведала хаця б асноўны змест Канстытуцыі, каб яна стала асобым прадметам вывучэння ў школах, вучылішчах, тэхнікумах і вышэйшых навучальных установах, каб за выкананнем норм Канстытуцыі быў наладжаны пастаянны і строгі кантроль з боку органаў дзяржаўнай улады і грамадскіх аб'яднанняў. Усе магчымасці для гэтага ў нас ёсць. Мы маем падставы, каб адзначыць дзень прыняцця Канстытуцыі як усенароднае свята. Са святам вас, паважаныя суайчыннікі!

**Мечыслаў ГРЫБ.**

Фота Сяргея ГРЫЦА.

